Валянціна Аксак

# Віно з Каліфорніі

Вершы

Менск «Юніпак» 2003

Kamunikat.org

УДК 821.161.3-1
ББК 84(4Беи)-5
А41

© OCR: Камунікат.org, 2018
© Інтэрнэт-версія: Камунікат.org, 2018
© PDF: Камунікат.org, 2018

Аксак В.
А41 Віно з Каліфорніі: Вершы / Валянціна Аксак. — Мн.: Юніпак, 2003. — 72 с.

ISBN 985-6418-59-3.

Валянціна Аксак паходзіць зь вёскі Смалічы, што на Нясьвіжчыне. Вяртаньне ў Смалічы з усіх жыцьцёвых вандровак сталася лейтматывам ейнае чацьвёртае паэтычнае кніжкі.

УДК 821.6.3-1
ББК 84(4Беи)-5

ISBN 985-6418-59-3

© Аксак В. І., 2003
© Мацур Г. І., афармленьне, 2003
© «Юніпак», 2003

Віно ў жыцьці — ня ўсё,
але жыцьцё безь віна — нішто.

Французскае выслоўе

kamunikat.org

## Абед у Гётэборгу

Я нарадзіўся ў Слаўгарадзе, —
сказаў мне Андрэй
падчас нашага знаёмнага
абеду ўдваіх.
У Прапойску? —
я ўдакладніла,
але д’ябал пад вейкамі бліснуў
маланкай адпрэчнай.
Болей мы не краналі
тапаніміку родных мястэчак.
Наталяліся ціхай раскошаю
места чужога.
Асабліва салодкім
нам быў пацалунак
пад салёным вятрыскам на прыстані,
дзе калісь распусьніца Інгрыд
цалавала Эрыка Рыжага.
Палюбілі ў Stadsmuseet
пра Лэйва Шчасьлівага слухаць,
які ўсьлед за бацькам
у Амэрыку плаваў,
перад тым дзень і ноч мілаваўшы
красуняў за ф’ёрдамі.
Хоць пра тое ніхто
ў тым музэі ня кажа,
як ня хоча ніхто там згадаць
пра Вандроўніка Торвальда,

бо — дзівак,
апаноўны новай навукай Хрыстоваю,
ставіў храмы паўсюль, дзе ішоў:
у Полацку,
Тураве,
дзесьці яшчэ.
У перадапошні наш дзень
мы знайшлі рыбака,
які нас перавёз
на Villa Solhem.
Тая віла памерам мо меней
за вясковы мой кветнік,
але нас там чакаў
адзіны ў Сусьвеце
гатэль на дваіх.
На вячэру стары рыбалоў
нам упражыў на камені стронгу,
а калі ён потым паліў,
задуменна-староньні,
як мора,
то я ўбачыла профіль
майго дзеда Рыгора —
нашчадка таго
легендарнага Карла,
які некалі ў наш
засьцянковы смаліцкі маёнтак
быў у карты прайграны
самадзержцам расейскім Пятром.
А ведаеш,
я нарадзіўся ў Прапойску, —
прамовіў ураньні Андрэй,
разнасьцежыўшы ветразь фіранкі

на паўсонным акне.
Не прасіў дараваньня.
Пераможцам сябе не ўдаваў.
Штыль павёў нашу лодку
назад у той горад,
які калісь адзін
геніяльны паэт
сваім імем дазволіў назваць.
На расстайны абед
у кавярні “Belparc”
мы замовілі бульбу
а la Рагвалод.
Запівалі яе да паўночы
белым рэйнскім віном
у Maritine Centre,
аж пакуль мяне гвалтам
не штурхнуў на паром
нашчадак
Вандроўніка Торвальда.

kamunikat.org

* * *

Пасьцель,
залітая віном,
у ёй так звабны
водар твайго цела —
найлепшы ланч,
любімы трунак днём,
апоўначы жаданая вячэра.

kamunikat.org

# Варшаўскі акцэнт

Гуляю па Рынкавым пляцы.
Ад маладога тлуму
Старога места
стамляюся
ды йду
ў рудыя прысады
Гданьскай узьбярэжнай
пасядзець у самоце
пракаветных шляхцянак.
А яны абмяркоўваюць
Чэся зь Нясьвіжу,
як ён зь імі танчыў
на астатнім балі на Вавэлі.
Зачапляюць і Яна,
які ў Вільні зблытаў
“кракавяка” з тутэйшым “Мікітам”
Потым згадваюць Зосю,
якая нядаўна дазналася,
што ўсё ж ейны Мірак
ня ўцёк у Парыж з Малгажатаю,
а застаўся ў Катыні.
Наўмысны акцэнт
іх заходнекраёвай гаворкі
надае маім мроям
нясьпешную рытміку руху.
Бязмэтна заходжу
ў Дом літарацкі,

kamunikat.org

у якім ганаруюць
красамоўнага пана Ружэвіча,
а ён адмаўляецца
чытаць евае вершы.
Няўжо адчувае,
пра што ў гэтай залі,
выпадковая,
думаю я
ім забытаю
мовай Статуту?!

kamunikat.org

* * *

Калі ты —
геній,
то што тады робіш
тут,
на гэтым балі
гаймідару?

Kamunikat.org

# Праходка да Саскага саду

На Пулаўскай
бэтонна-скарбовай
так падобнае ўсё да радзімы:
дым,
нязносны ніякім норд-вэстам,
згэлк гандлёвы пры рэйках трамваяў,
у іх едуць на працу кабеты,
і мужчыны ў аўто кудысь мкнуцца.
Іх бязважкія вочы насустрач
так нішчымна глядзяць,
што я —
дома.
Але крокаў якіх за пяцьсот мо,
у тым месцы,
дзе парк з грэцкай назвай
і палац Крулікарня з музэем
вінавата глядзяць на тутэйшасьць,
раптам відму віленскай князёўны
сёмым чуцьцем я побач адчула,
і ўжо стан мой уладныя рукі,
як калісьці яе,
кальцавалі.
Азірнулася ў жаху —
нікога
побач нават і блізка ня бачна,
ды ўсё ж кропля рэальнай пяшчоты
расплылася па целе ракою,

kamunikat.org

шал стрыножыў і рухі, і думкі,
і чыясь неспатольная прага
забірала абрыдлую тугасьць
так падобнай да Менску Варшавы.
Сілы зболыш мне хапіла
ня выдаць
недарэчную жарсьць і трызьненьне,
дабрысьці неяк па Маршалкоўскай
аж да вулкі імя маёй мроі,
дзе так тлумна
і так беспрытульна,
што ўвідмованы мой спадарожнік
быў згубіўся
ці іншую выбраў.
Я ж,
скароная чуць адзіноту
дзён і местаў
былых і наступных,
дабрыла аж да Саскага саду.
І вось там,
на рагу Каралеўскай,
ён стаяў
і глядзеў мне насустрач
тым адзіна мажлівым паглядам,
які меў
толькі мой
Жыгімонт.

kamunikat.org

* * *

А лісьцікі на ліпах
раптам парудзелі,
і неба сінь
зажмурылася спрэс,
ды толькі цела
з эратычнае купелі
на водмель пурытанскую
ня хоча плыць.

kamunikat.org

## Сустрэча са смаліцкім буслам

Мы зь ім сустрэліся
падчас зацьменьня сонца,
як толькі вусьцішны паўзмрок
акрыў шашу і поле,
зрабіўшы шчэ больш сумным краявід
румынскага абшару.
Ну, як там нашая бусьлянка? —
спытаўся ён,
бо вылецеў за тыдзень да мяне.
Нічога, — я кажу, — жыве.
Як добра, што яна ня бачыць
гэтай недарэчнай цемры! —
усклікнуў ён і шэптам папрасіў:
ты ёй не кажы
пра нашую сустрэчу тут,
у гэтым занядбаным месьце,
яна ж ня ведае,
што я лячу за мора на зіму,
і верыць,
што ў сьцюдзёны час
я сьнегам станаўлюся
і атуляю ейны цёплы спод
ад сібераў усходніх.
Вясной ён не вярнуўся.

Kamunikat.org

* * *

Лета ў восень памкнецца,
а вецер
узгрувасьціць прад ім буралом.
Сьцераблю маладое вецьце
й суквецьці
забяру ў новы дом,
які ты збудаваў
з буралломных камлёў —
дзеля вечнасьці.

Kamunikat.org

# Румынскія каты

Адмыслова да зацьменьня
румыны нарабілі санцаглядаў,
церазь якія чорны цмок,
што заглынае Бога дня
шчарбатым ротам,
быў бачны,
як бяльмо ў чужой вачніцы,
і прымярэжжа між Ярылам і Сэленай
мы сузіралі
ля вясковае карчомкі
ў атачэньні кацянятаў,
ні ў якай,
апроч роднай мовы,
не кумеклых.
Каты-каты! —
паклікалі мы аднаго з тых падшыванцаў,
але ён толькі кіпці падгастрыў.
Каты-каты! —
другога дражнім, —
ён вусы наструніў,
хвост дудой уздыбіў,
гатовы ў бойку з чужаніцай.
Да трэцяга:
каты-каты! —
і на далоні бліснуў тлусты лусьцік.
О, што ты робіш,
паляндвіца

kamunikat.org

з далёкае Нясьвіжчыны!?
Рыска румынская,
пабачыўшы цябе,
адразу стала
беларускай.

Kamunikat.org

* * *

Крывавымі промнямі
ў клёнавых кронах
успыхвае Леты краса,
Спас і Багач
скрасаваліся долу,
бабіна лета
расквечвае сад.

## Землятрус у Нэсэбры

Два штуршкі —
тое рэха трусу ў Турцыі.
Баўгарскі Нэсэбр сьпіць,
не прачнулася й я,
залюляная плёскатам хваляў.
Але мой
надта чуйны абраньнік
што-пораз турбуе мяне:
землятрус.
Ну навошта трывожыш мой сон?
У мясьціне антычнай усьцехі
не сьпяшаюся чуць
калыханку зямное калыскі,
спадзяюся,
й клады ў Смалічах
цярпліва чакаюць мяне.

Kamunikat.org

* * *

Зь зямлі на неба,
а не наадварот
гляджу пакуль,
і селязін вачэй
мільёнам маладых лісточкаў
ў Сусьвет люструецца.

kamunikat.org

## “I love Belarusian lyceum”

Добрыя беларускія людзі,
рэстаран “Hemingway”
рады вітаць вас!
Гемінгуэй?
О, гэта дарэчы!
Але як вы даведаліся,
што мы — беларускія,
да таго ж — добрыя,
людзі?
Але надпіс на вашых T-shirts,
спадарове!

* * *

Белай паняю ў натоўп
не выпроствайся,
праўдалюбны збой абміні,
альбо перамяні
колер поглядаў
ці хоць бы сукні.

Kamunikat.org

# Паеду ў Вільню

Паеду ў Вільню
піць віно
за Кастусёву ўсьмяглую душу,
бо там,
на Pilies,
не чутно
імя яго ў казаньнях,
хоць імшу
спаўна спраўляюць спадкаемцы
Яські,
спадара з-пад Вільні,
ды майно
паела ў новай Вільні
моль даўно
й старое Вільні не відно
на мапе той эРБэўскай.
Лукіскі пыл
прыліп да ліп,
на нашаніўскай глебе
ўзьняты.

Kamunikat.org

* * *

Тут нават
прыдарожная трава
расьце адразу цёмнаю,
бо шматвяковы досьвед навучыў,
што марныя
высілкі сьветлыні
пры тлумнасьці highway.

kamunikat.org

# Віно з Каліфорніі

Тваё віно з Каліфорніі
разбруілася водарам клёну
ў цягніку “Прага-Менск” —
нібы лісьцік з гарачага хлеба,
пажагнаўшы,
бабуля здымае.
Хоць даўно ўжо
загублены клён
праз суседзкую сварку з-за бульбы,
што пад ім не ўраджала,
пашчапалі на трэскі й лапату,
на якой на кляновых лістах
на чарэнь важкі бохан саджалі,
дый дзяжы шмат гадоў не відаць
у запечку спусьцелым.
Але тое ня існа
ў цягніку “Прага-Менск”,
бо смакуе віно з Каліфорніі.
Яно расструменьвае пах
маладзенькіх клянкоў,
што чакаюць мяне ў Смалічах,
на самоце кідаючы лісьце
ганарліўкам-півоням пад ногі,
покуль еду да іх
цягніком “Прага-Менск”
зь ніадкуль я.

Kamunikat.org

* * *

Пад якім такім плотам
прарасьце мой клёкат
ня блёкатам —
клёнам?..

Kamunikat.org

# Высах вінаград

Увесну высах
мой чырвоны вінаград,
і лета ўсё гадала я
прычыну гэтай згубы,
бо ж ні хваробаў,
ані старасьці,
ні зімняй моцнай сьцюжы
ня выпала яму.
Лазінкі ў траўні
асмужыў быў аксамітам
лістоты срэбна-селязінавай
і —
скурчыліся, зьвялі, перасохлі.
Адказ знайшоўся ўвосень.
Ты так любіў віно
мяноўна з гэтага куста,
што выпіў
напой антычны
да астатку
з душы маёй,
і мне няма ўжо чым
збаночкі гроначкаў
напоўніць.

Kamunikat.org

* * *

Віно, віно,
тваё віно
ў мяне ня ўльецца больш
выратавальным успамінам.

## Кветнік

Нясьпешна
засаджваю градку
рамонкамі белымі
на тле гэткіх самых
цнатлівых стакротак.
Аглядаю гербарый
ды — пасьля coffee pause —
у асяродак ягоны таропка
ўтыкаю друк ружы,
узгадаўшы раптоўна,
як кужаль,
што бабуля бяліла да шлюбу,
дачасна зацьвіў
на маёй інтэрнацкай пасьцелі.

Kamunikat.org

* * *

Мой дзень народзінаў
прыпаў на час
разводу ружаў —
то веснавыя зоркі,
бачыш,
зьвінаваціліся ў тым,
што калючая я і ўвосень,
хрызантэмаўлюбёны
мой муж.

Kamunikat.org

# Незвычаёвая

У нашай вёсцы —
толькі дзікі квет шыпшыны,
ды й тое —
не ля кожнай брамкі,
а ружаў —
ні пры воднай.
Не было й дзівачкі,
якая б зрушыла парадак,
каб ружы разгадоўваць —
бясплённая бо гэта справа,
не для хлебаробаў.
Што марна раніць рукі?
Я не ўтрымала звычай,
то й плачу плачам
за кветкакроўны шлях радкоў
на белым тле паперы.

kamunikat.org

* * *

Над замшэлымі стрэхамі,
над падрубамі зьніклых сядзібаў
я спрабую ўзьляцець —
спадкаемны трымае цяжар.

## Чырвоная субота

Чырвоныя яйкі фарбую,
чырвоны —
празь белы праслой —
выпякаю пірог журавінавы,
і белую стому спатольваю
хоць келіхам,
ды чырвонага,
непазбытнага нават у пост,
што ў паэтаў натхненьнем,
а ў шараговых,
як я,
называецца Эрасам,
стану.

kamunikat.org

* * *

Адсланюся
келіхам віна
ад тваіх шурпатых вуснаў,
цемра,
і цішыню
праз музыку ня ўчую.

Kamunikat.org

## Спасаўская ноч у Смолічах

Пад німбам Сусьвету
стаю,
ахаваная Госпадам,
нат поўні насьмешка
душу
не ўвіроўвае ў поцемкі.
Шлях Птушыны з вышыняў
засявае мой сад
мілажальлю.

Kamunikat.org

* * *

Мама кажа:
бульбу капай!
Бацька кажа:
падсушвай атаву!
Як спраўляю ўсё гэта -
адна любата!
За мяне хтосьці грае
чужыя актавы.

kamunikat.org

# Покровы ў Смолічах

Яшчэ ў хатах
вокны ўсе цэлыя,
ды ня ў кожным акне
агонь.
Гусі пасьвяцца
адзічэлыя,
стабуніўшыся
за гумном.
Яшчэ з дахаў
каміны атлянтамі
падпіраюць
воблакаў столь.
Ды ня з кожнага
дух аладкавы
сьцеле шлях
анёлам за стол.

Kamunikat.org

* * *

Мама мая —
цёплая хата,
бацька —
укветнены сад-агарод.
У іхнім сузор'і
і я —
зараўзьнятая.
Божа,
аддаль
мне бязь іх
схоўваць род!

kamunikat.org

# Радзінны апокрыф

Мама мая —
Марыя,
і Марыя —
мама твая.
Цётка мая любімая —
Марыя,
і Марыя —
каханая сынава.
Магдаленаю мусіць быць
унучка мая,
як прабабка, —
мая і біблійная.

* * *

Дзьве кроплі буйныя
ліповага мёду
яшчэ зіхацяць
на донцы
сподка майго,
але я ўжо сумую
па вашай слодычы,
тата і мама.

kamunikat.org

## Неруш

Маладосьць —
мала досьведу,
каб да старасьці
сто разоў прарасьці
сьветаўразьліва.
Можа таму
старыя стагодзьдзямі
прыгадвалі марнае,
а маладыя ў вякох
будуць мроіць
нязбытнае.

Kamunikat.org

* * *

Ёсьць вечар
і вецер,
а зь імі тут —
трэцяя я
сутворваю веча,
каб спрэчку
быцьця-небыцьця
адпрэчыць нарэшце,
як лішні
ў трохкутніку кут,
пакінуўшы
вечар
і вецер.

kamunikat.org

## Іншамоўны

Усе вершы свае
я складала
аднаму табе,
ды ніводнага зь іх
ты дагэтуль
ня змог прачытаць,
бо ня ведаеш
мовы маёй,
хоць вучыла цябе
неаднойчы
перарыўнасьці згукаў,
пераломнасьці зрухаў
і таму,
як сканаць
у адхланьні,
і таму,
як ускрэснуць
з тускноты,
і таму,
як ляцець
спаміж мройнай
і яўнаю мною,
не кранаючы
крыльлем
ніводную з нас,
і таму,
як упасьці

Kamunikat.org

на разгойданы
жарсьцю
алтар нашай смагі,
не зламаўшы
тых скрыдлаў,
якімі зазвычай
ты завучваеш
мову спатолі
па лемантарах,
якіх я ня маю.

Kamunikat.org

* * *

Мяне звабіць ня той,
хто імпэтна цалуе
кабетам рукі,
а той,
хто нарэшце дасьць рады
забойцам
майго манікюру.

Kamunikat.org

## Няўжо?

Прабіваюся па калдобінах
разнабойнае рытмікі нечае,
ніяк на сваю не патраплю.
Няўжо так уборыста
ўзараныя гоні
тутэйшага красамоўства,
што дзеля маёе разоры
папару й не ацалела?

Kamunikat.org

З болю,
пакутаў ды жарсьцяў
складаліся вершы
былыя,
цяпер я ўся —
роўнядзь,
а музы
на горах жывуць.

Kamunikat.org

## А вершы тут растуць

Радзіма мая —
мой пад’езд,
стары, старасьвецкі, зьнявечаны
фанабэрыяй цесьляў ссавечаных,
бо быў на двары трыццаць шосты
ці васямнаццаты ад незалежнасьці;
а потым —
палонных адноўшчыкаў злосьцю
скалечаны,
бо быў на двары сорак восьмы
ці трэці ад паразы Нямеччыны.
Енкі, лаянка, грозьбы, праклёны
б’юць пад дых, пад сэрца, пад лона.
Сіні твар —
на першым пралёце,
на трэцім —
зялёны,
на другім —
наркаманы і пэдзікі
дзеляць дозы і сэкс на бздыкі.

kamunikat.org

* * *

Паэзія —
не прафэсія,
і каханак —
ня муж.
Радасьць агню —
ад крэсіва,
дрот электрыкі —
мроям гуж.

## Экумэністка

Недзе там,
над дахамі з гонты,
ходзіць мой
неасвойтаны сьцень,
экзэгезай
сумневаў Понтыя
ён што-пораз
зырчэй цьвіце.
Ахвярую
вераю праўдзе —
штоімгненны
ўсталюю лад
і, як той
дабрадзейны Клаўдзі,
стану збабаю
роднасных звад.
Потым праўду
на вогнішча веры
пакладу,
як сына Абрам, —
уцялесьнюся ў Геру
й габрэяў
пракляну
за той роду зман.
Хай блукаюць
па вулках Эўропы,

Kamunikat.org

сеюць семя
ў тутэйшай ральлі,
каб нашчадка Понтыя
дотык
у ньюэлінскім лоне
зьнік.

* * *

Ужо сяброўка
стала забывацца
на прозьвішча
маёй самотнай відмы —
ня дзіва,
што яе анфас і профіль
не прызнаюць
мае адзінакроўцы.

# Ярыла

На шляху
ў тысячагадовы храм
мне спаткаўся
пракаветны Бог тутэйшых,
ды так сабе спаважна
запытаўся,
навошта крыўду
я нясу ў сьвятыню.
Як ён пра мае чуцьці
здагадаўся? —
уразілася я.
А што ж яшчэ
туды ты можаш несьці? —
ён задзівіўся на мой подзіў
ды дадаў,
што радасьць,
прагу нараджаць дзяцей
ды дзеіць
беларусы носяць да яго,
крыўдыняўведнага Ярылы.

kamunikat.org

* * *

Неба долу ня сыдзе,
каб нам сходкі ў бязьмежжа
лацьвей прынароўліваць —
дзень пры дні я драбіны
спрабую да неба стаўляць.
Сасьлізгваюць.

kamunikat.org

# Баюся ўтапіцца

На бязводзьдзі ўзрасла
і плаваць ня ўмею,
мабыць, таму
баюся ўтапіцца
ня ў Сьвіслачы сьцёкаадстойнай
і ня ў Нешчардзе смарагдападобнай,
і нават ня ў Рыскай затоцы
ля Дзінтары дуйкадзюнавай.
Баюся ўтапіцца
ў мядніцы
з брусьніцавым сочывам
і ў пральнай машыне “Samsung”,
а то —
можна такому даць веры? —
у вядры,
вадою зь якога зрэдчас
мыю падлогу.

* * *

Быт
сыдзе ў нябыт,
а ня быт —
за нябытнаю мной
ніколі ня стане
нябытам.

Kamunikat.org

## Абвестка

Шукаю кабету
сярэдняга веку,
сярэдняга целаскладу,
якая была апранутая
ў шэры гарсэцік
бязь верхняга гузіка
і дзіўны крыху андарак
з даўжэзазных аркушаў,
на якіх безупынна
штось занатоўвала
драўлянай асадкаю
зь зялёным атрамантам.
Адметныя рысы:
зь цела бруіць
невыводны водар “Cabernet”,
“Magie Noire”
і сьвежае спэрмы.
Усіх,
хто яе бачыў,
нешта чуў,
ці ведае пра яе,
просім адгукнуцца
да брамніка капліцы,
што месьціцца пры цьвінтары
на вуліцы Падгорнай.

Kamunikat.org

* * *

Памерці ў доме
з выглядам на мора,
а жыць —
дзе бераг рэчкі
напругка выпінаецца з бэтону,
нібы мой стан
з тваіх абдоймаў
у гэтым дзіўным горадзе,
дзе аніколі
рэчка ў мора
не бяжыць.

kamunikat.org

## Эпітафія

Тут спачывае кабета,
якой Бог паслаў дастаткова,
каб шчаснай памерці:
зграбнае цела
і мноства густоўных убораў,
якія прывабна яго агалялі;
розум дасьціпны,
аздоблены здольнаю —
нат не бяз таленту —
звычкаю вершы складаць;
палкім каханкам,
які да таго ж
быў і бацькам
выбітных і гожых сыноў;
трапяткою душой
і сэрцам чульлівым.
Пэўна, таму,
выпадковы мінак,
ты і ня ведаеш,
хто тут ляжыць.

* * *

Хай Моцарт
тугу размалоціць,
адрыне жальбіну,
закіне ў адрыну,
і будзе ў сьвятліцы
душа весяліцца!

kamunikat.org

# Postscriptum да запавету

Спаткаліся
часова ў гэтым сьвеце
і крыж стварылі
нашыя шляхі,
пярэчынкі далей памкнуліся,
а дзеці
так і ня вырашаць,
дзе ладзіць нам
астатні схім:
у Полацку, скуль бацька —
слынны Ўладзя,
ці ў Смалічах,
дзе матчына душа
блукае па замшэлым далягля дзе.
Штось пра Вушачку сьніць
зьмялелая Вуша.

kamunikat.org

* * *

Калі памру —
ня плачце,
лепш вершы пачытайце
з аквамарынавае тэчкі на стале!

Kamunikat.org

## Верш на Свабоду

Свабода,
як сэрафім з шасьцю крыламі:
двума ён
вочы свае захінае,
каб Бога ня бачыць,
бо ня варты небнае звышнасьці;
яшчэ двума шчытна
ногі свае атуляе,
каб Бог ня бачыў
ягонай зямное існасьці;
трэцяю ж параю крылаў
увесь час трапеча над намі,
утвараючы мройлівы дым,
празь які мы яго
ніколі ня бачым.

kamunikat.org

* * *

Віно —
гэта мытнік,
які спаганяе плату
з заўтра
за сёньня.

kamunikat.org

# Вясёлка

У нечаканую залеву ў чыстым полі —
беспрытульна,
як у ложку з выпадковым донкіхотам,
дарога,
неспадзеўна ўкаляінелая,
праблемным робіць шлях
да небакраю,
як і ўдаванае чуцьцё гетэры
не разнасьцежыць браму Эрасу
ў Вэнэрыны ўладаньні.
Але —
гульня пачатая,
ня рухацца ня можаш.
І дзесьці,
за чарговым скрыжаваньнем
гасьцінца негасьціннага
з каханьнем некаханым,
вясёлка ўспыхне
спаміж хмараў
ці павейкаў.
А дзе —
ужо ня важна,
бо тое й гэтае
ўспрыму
як Божы знак
на шлях,
ня мной абраны.

kamunikat.org

* * *

Як котка,
грэюся
пад сакавіцкім сонцам,
яно мне ласку шле
на ложак,
на асьцюжэлую за ноч пасьцель
сужэнскай звычкі,
нядосыпу,
чаканьня цеплыні
ды ўмілажальства.
Такі ж самотнік вечны,
як і я,
у гэты міг са мною,
і новай ночы надыход
больш не ўсталюе холад.

kamunikat.org

Яна абрынулася,
як пажада да чужога мужа:
напачатку шалу тому
што ёсьць моцы
супраціў наладжвала,
бо перайначыў спраўны дзень
і ночы ўсе суцэльна
выбавіў з кунегі,
нат перакроіў бачны краявід.
Міжволі
двубой няроўны
сілы забіраў,
і спакваля
спакусе гэтай
бадай што паддалася.
Прымаючы варункі новае гульні,
зацеміла між іншым:
а можа, кольвек што і збражыць
з так шчодра ўрошчыннага квасу?
А ўрэшце п’ю нагбом
напой той
са шкадоблівым уздыхам:
салодка ўсё ж было
ды блізкае ўжо дно!..

kamunikat.org

Зьмест



Kamunikat.org

kamunikat.org

Літаратурна-мастацкае выданьне

Аксак Валянціна Іванаўна

Віно з Каліфорніі

Вершы

Рэдактар Уладзімер Арлоў
Мастак Генадзь Мацур
Карэктар Аляксандра Макавік

Падпісана ў друк з гатовых дыяпазытываў 03.03.03. Фармат 84х100 $^1/_{32}$. Папера афсэтная. Друк афсэтны. Ум. друк. арк. 3,51. Ум. фарб.-адб. 3,8. Ул.-выд. арк. 1,4. Наклад 500 ас. Заказ 127.
Выдавецтва і друкарня ЗАТ «Юніпак». ЛВ №320 ад 13.09.2001. ЛП №132 ад 29.12.2002. Бул. Кастрычніцкая, 19, г. Менск, 220030, Рэспубліка Беларусь.
Тэл.: (017) 210 43 34, 227 13 37; e-mail: info@unipack.by

kamunikat.org